


# DISTRICTUS ПАВЕТ



ВЫДАННЕ КРАЯЗНАЎЦАЎ БРАСЛАЎШЧЫНЫ

№ 6 (43) КАСТРЫЧНІК 2005 г.


## Нумар прысвечаны 90-годдзю пачатку баявых дзеянняў І-й сусветнай вайны на Браслаўшчыне

## 1915 2005




**Браслаў. 1915 г. Гэты фотаздымак неаднойчы публікаваўся ў розных выданнях. Аб тым, што ён зроблены ў час першай сусветнай вайны можна меркаваць не толькі па надпісу ў верхняй частцы, але і па постаці чалавека на пярэднім плане, які зняўся на Замкавай гары. Фотаздымак вельмі каштоўны для гісторыі Браслава. Выразна бачна забудова ўсходняй частці мястэчка. Мяжа паселішча праходзіла дзесьці ў раёне сучаснага аўтапарка. На пэўнай адлегласці, на высокай горцы чытаецца сілуэт велізарнага млына-ветрака. Паміж касцёлам і царквой – плошча. Арыгінал фотаздымка зберагаецца ў фондах музейнага аб'яднання. Аб тым, як ён трапіў у Браслаў, што за чалавек зняўся на фоне забудовы мястэчка чытайце на 4 с. Таксама на с.5 – цікавейшыя знаходкі Міколы Паўловіча.**

Да гэтай пары многія не ўяўляюць, наколькі драматычнымі былі наступствы першай сусветнай вайны для Браслаўшчыны. З восені 1915 г. да 1918 г. рэгіён падзяляла лінія фронту паміж расійскімі і германскімі войскамі. Першая сусветная вайна – гэта велізарныя разбурэнні ў прыфрантавой зоне, гэта больш за сотню расійскіх і нямецкіх вайсковых пахаванняў, гэта тысячы перасяленцаў і ўцекачоў, многія з якіх не вярнуліся ў родныя мясціны, гэта амаль знішчаная эканоміка краю, гэта эвакуацыя маёмасці ўглыб імперыі, з якой амаль нічога не вярнулася назад, гэта тысячы землякоў, мабілізаваных у расійскае войска, страты сярод якіх ніхто яшчэ не падлічыў, гэта высечаныя лясы, знішчаная жыўнасць, перарытыя акопамі, бліндажамі і іншымі ваеннымі збудаваннямі палеткі. Падзеям першай сусветнай вайны можна прысвяціць грунтоўную манаграфію. Тысячы архіўных спраў у Беларусі, Польшчы, Літве, Латвіі, Расіі, Германіі чакаюць сваіх даследчыкаў. Шмат матэрыялаў даюць і краязнаўчыя пошукі на Браслаўшчыне. Акрамя музея, гэтым напрамкам найбольш актыўна займаюцца краязнаўцы Дрысвяцкай, Грытунскай, Карасінскай школ.

З некаторымі новымі матэрыяламі па першай сусветнай чытач пазнаёміцца ў гэтым нумары.

### З рапарта павятовага ўрача Станіслава Нарбута. 1919 год.

"...Медыцынская дапамога ў перадваенны перыяд была арганізавана выдатна... У час баявых дзеянняў уся сельская медыцына і шпіталь былі падпарадкаваны ваенным уладам. З падыходам непрыяцеля ўсе медыцынскія ўстановы былі вывезены ўглыб Расіі. Пасля шпіталь вярнуўся ў Браслаў, аднак далейшыя ператрубацыі, бальшавіцкія наезды прывялі да поўнага знішчэння медыцынскіх устаноў. Зараз у павеце ніякіх лячэбніц няма..."

### Успамінае Браслаўскі староста Зеліслаў Янушкевіч у 1923–30 гг.

"...Адной з цяжкіх спадчын першай сусветнай вайны на Браслаўшчыне была зона ваенных знішчэнняў каля франтавой лініі, якая перасякала заходнюю частку павета з поўначы на поўдзень. Дзяржава дапамагала пацярпелым адбудавацца хаця б часткова, бо без гэтага немагчыма было б вяртанне сялян на свае надзелы і апрацоўка гэтых надзелаў. Ваенныя знішчэнні закранулі тысячы гаспадарак. На адбудову ўжывалі напачатку выключна дрэва і гэта выклікала вялізныя цяжкасці, бо павет у час вайны страціў лясы ў франтавой паласе. Акурат тут і трэба было найбольш адбудоўваць... Інжынер Тадэвуш Бейнар здолеў прыстасаваць пад будаўнічыя патрэбы драўніну з так званых "накатнікаў", стратэгічных ваенных дарог з укладзенымі ствaламі дрэў. Такім чынам колькасць матэрыялу рэзка ўзрасла, што дазволіла весці адбудову хутчэй..."

Да таго, як пачалася праца над кнігай "Памяць" Браслаўскага раёна, пра падзеі першай сусветнай вайны ў рэгіёне было вядома зусім няшмат. Краязнаўчыя звесткі па гэтай тэме мэтанакіравана збіраў краязнавец, настаўнік Сяргей Львовіч Адамовіч. Лёс сабранага ім матэрыялу, на жаль, невядомы. Архіўныя пошукі стваральнікаў кнігі "Памяць" дапамаглі выявіць велізарныя па аб'ёму матэрыялы. У кнігу ўвайшлі толькі малая частка таго, што было прывезена з архіваў. На 20 старонках удалося апісаць толькі асноўныя падзеі першай сусветнай на Браслаўшчыне (Памяць. Браслаўскі раён. Мінск, 1998, СС. 211 — 230). Асобныя старонкі вайны асветлены ў гістарычных зборніках "Браслаўскія чыткі" (т.1, 1996; т.3, 1999; т.4, 2000). Аднак значная частка назапашанага музеем матэрыялу чакае свайго часу. На 2 і 3 старонках "Павета" прапануецца падборка матэрыялаў пра баявыя дзеянні, якія адбываліся ўвосень 1915 года, ці 90 гадоў таму назад. Нагадаем, што найбольш жорсткія баі разгарнуліся ў навакольлях азёраў Дрысвяты, Аболе, Богінскае, каля мястэчка Казяны, горада Відзы.

## З апісанняў баявых дзеянняў і асобных подзвігаў салдат і афіцэраў 14 армейскага корпуса за верасень-снежань 1915 г.

30 лістапада ў 23.50 разведчыкі 70 пяхотнага палка на чале з паручнікам Блажэвічам (узвод разведкі 27 чалавек) выйшаў на заставу праціўніка каля в.Лук'яны, абышоўшы яе справа і забяспечыўшы свой правы фланг як найбольш уразлівы групай з 9 чалавек, размясціўшы іх у хмызняку каталіцкіх могілак, з астатнімі рушыў у абход заставы. Калі радавы Амельчук дайшоў да драцяных загародаў, то, не маючы пад рукой нажніц, ён перакусіў зубамі тэлефонны кабель, які цягнуўся з нямецкіх акопаў да заставы. Разведчыкі ўшчыльную падкраліся да заставы, але былі выяўлены сакрэтам, які адкрыў частую страляніну. Тым не менш старэйшы ўнтэр-афіцэр Агапаў, малодшы ўнтэр-афіцэр Агурцоў, яфрэйтары Зайцаў і Кокарэў кінуліся на ворага і перакалолі немцаў. На стрэлы з заставы павыскаквалі салдаты і кінуліся да вінтовак, што стаялі ў казлах, але разведчыкі Амельчук, Панела, Крывенка і Цывінскі паспелі паваліць казлы. Адначасова ў групу разведчыкаў з зямлянкі была кінута бомба, якая параніла старэйшага ўнтэр-афіцэра Агапава, яфрэйтараў Зайцава і Кокарэва. Аглушальны выбух на імгненне ашаламіў разведчыкаў, чым скарысталіся немцы. Пахватаўшы вінтоўкі, яны адкрылі хаатычны агонь. Разведчыкі, падштурхоўваемыя паручнікам Блажэвічам, з воклічам "Ура!" кінуліся на немцаў: двух пакалолі, чатырох паранілі, астатнім прапанавалі здацца. Немцы не выходзілі з зямлянак і тады малодшы ўнтэр-афіцэр Ошчанка і радавы Цывінскі рашуча ўвайшлі ў зямлянку і на нямецкай мове пераканалі ўсіх здацца. З прычыны таго, што авалоданне пунктам не ўяўляла ніякай карысці, да раніцы разведчыкі адышлі да сваіх пазіцый, прыхапіўшы з сабой 15 палонных.



**Група салдат каля кулямёта «Максім». Браслаўшчына**

## З журнала ваенных дзеянняў 40-й пяхотнай дывізіі за верасень-лістапад 1915 г.

5 кастрычніка.

Каля 11 гадзін вечара кутаісцам удалося нечакана для немцаў уварвацца ў асобную лінію акопаў каля м.Казяны, пры гэтым была пераколата рота немцаў і захоплены 3 кулямёты і 7 палонных. Пасля таго кутаісцам двойчы ўдавалася ўрывацца ў м.Казяны, захапіць пакінутую немцамі гармату, аднак вывезці яе не здолелі, бо абодва разы траплялі пад перакрыжаваны кулямётны агонь. Утрымацца ў м.Казяны [кутаісцы] не здолелі.

6 кастрычніка.

Перад світанкам немцы з м.Казяны раптоўна з кароткай адлегласці абышлі кутаісцаў і пасля кароткага кулямётнага абстрэлу кінуліся ў штыкі. Кутаісцы і дасланая ім на дапамогу рота гурыйцаў панеслі велізарныя страты і асобнымі групамі прабіліся праз немцаў, якія выйшлі ў іх тыл.



**Каля падбітага нямецкага самалёта. Браслаўшчына**

## З баявых данясенняў 8-й кавалерыйскай дывізіі за верасень 1915 г.

22 верасня.

... Заняў ланцугом в.Хвасты, што заходней Богінскага возера. Адкрыў ружэйны і кулямётны агонь па ланцугах праціўніка, наступаючага з боку в.Сіпавічы... Нямецкая батарэя зрэдку страляе па нашых ланцугах. Страт няма. Прашу прыслаць патронаў, кулямётных лент і ўзмацніць ланцуг другім эскадронам злева. Таксама прашу падтрымаць артылерыйскім агнём. Ротмістр Краўчанка.

23 верасня. 9 гадзін 45 хвілін.

... Праціўнік перайшоў у агульнае наступленне вялікімі сіламі, не менш палка пяхоты, з кулямётамі, выцесніў ланцуг з в.Хвасты і працягвае насядаць.

23 верасня. 12 гадзін 30 хвілін.

... У 11 гадзін раніцы [немцы] падвезлі артылерыю і адкрылі агонь па панскаму двару Богіна і пераправе. Панскі двор гарыць. Па пераправе прыстраляліся даволі трапна. Адначасова на левы фланг улан наступае даволі густы ланцуг непрыяцельскай пяхоты. Першае наступленне было адбіта агнём. У дадзены момант ланцугі падышлі вельмі блізка. Можна чакаць штыкавога ўдару...

Сотнік Талалаеў.

24 верасня.

Генералу Усцімовічу ад пад'есаула Колшыкава. Немцы абстрэльвалі фальварак, у якім я знаходзіўся, два снарады трапілі ў самую хату, тэлефонны дрот абарваны... Справа харунжы Кастрамін паведамляе, што ланцугі немцаў занялі акопы часцей 6-й дывізіі і абстрэльваюць наш правы фланг інтэнсіўным агнём.

## З оперзводкі коннага атрада генерала Араноўскага за 6 кастрычніка 1915 г.

Брыгада 14-й дывізіі, якая ўчора пераправілася ўброд праз возера Богінскае, пад агнём праціўніка авалодала панскім дваром Богіна. Раніцай немцы пад прыкрыццём моцнага артылерыйскага агню пачалі наступленне. Забіты падпалкоўнік Ямбургскага палка Валчанецкі і параненыя камандзіры эскадронаў штабс-ротмістры Калачаў і Мемнонаў. У чатыры гадзіны праціўнік, узмацніўшыся, пачаў адціскаць брыгаду, што мела ў тыле возера. Эскадроны літоўскіх гусараў і ямбургскіх уланаў занялі пабудаваны тэцьдэпон ля броду Феліксава і прыкрывалі пераправу ўсёй брыгады... уступілі ў бой з непрыяцелем штыкамі і гэтым далі магчымасць брыгадзе адступіць на ўсходні бераг. У рукапашнай схватцы паранены і застаўся на полі бою прапаршчык фон Зэтцэн, прапаў без вестак ротмістр Гандке, паранены прапаршчык Іванушкін. Ніжэйшых чыноў забіта 7, паранена 25, з іх 6 засталіся на полі бою, і прапала без вестак 5.



**Атака расійскіх войск. Браслаўшчына**

## З журнала ваенных данясенняў 1-га армейскага корпуса за лістапад-снежань 1915 г.

26 лістапада.

На працягу другой паловы дня на фронце конніцы чатыры разведчыкі 20-га палка з прапаршчыкамі Брыкіным і Рубашкіным у раёне засценка Падаравішкі падабраліся да нямецкай аховы, забілі двух вартавых, але адышлі, будучы абстралянымі. Неўзабаве яны зноў падабраліся да в.Ждэгелі і абстралялі вёску...

13 снежня.

... Да поўдня немцы пакінулі Лайбуны, Ждэгелі і адышлі на лінію: засценак Дэксні, Снегішкі, засценак Кальнішкі-Мікуцы – і пад прыкрыццём ланцуга, які вядзе агонь, умацоўваюцца. Нашы перадавыя часці выдзвінуліся на лінію: Лайбуны, Ждэгелі і акоп-ваюцца... Немцы астрэльвалі ружэйным, кулямётным агнём і агнём цяжкай і лёгкай батарэі раён в.Ждэгелі. Наша батарэя адказвала.

16 снежня.

Немцы заставаліся на ўсім фронце пасіўнымі, на ўчастку 24 пяхотнай дывізіі ўсю ноч падтрымлівалі артылерыйскі агонь па раёну в.Ждэгелі.

18 снежня.

... На ўчастку 24 пяхотнай дывізіі немцы неаднаразова абстрэльвалі раён нашай аховы паўночней р.Дзісна, з боку Відзаў, чуліся шум і крыкі, таму туды была адпраўлена спецыяльная разведка з афіцэрам, якая высветліла, што ўчастак пазіцый каля засценка Дэксні ачышчаны праціўнікам і непасрэдна ля Відзаў чуецца шум і стук забіваемых калоў.

20 снежня.

Ноччу разведчыкі высветлілі, што галоўная пазіцыя немцаў размешчана на заходнім беразе рэчкі Марута, прычым на ўсходнім беразе маецца ахова ў складзе трох рот, размешчаная групамі на найбольш узвышаных месцах... Ноччу ўвесь час адбываліся работы ў раёне Відзаў вялізнай колькасцю людзей.

14 снежня.

... На ўчастку 24 пяхотнай дывізіі ў раёне на ўсход засценка Грабішкі разведчыкі 96-га палка развязалі перастрэлку з немцамі, да якіх хутка падышло падмацаванне да дзвюх рот. Па непрыяцелю наша батарэя адкрыла агонь, немцы адказалі абстрэлам з гаўбіц. На змярканні бой перапыніўся.

Фотаздымкі для 2-3 старонак узяты з афіцэрскага альбома, знойдзенага ў в.Купчэлі. Пра гэту знаходку чытайце на с.6

# Фотаздымкі Фядоса Бабенка

*Калі Браслаўскі музей толькі пачаў ствараццa (у пачатку 80-х гадоў), з райкама партыі перадалі ліст, дасланы з Украіны. Канверта на жаль не зберагліі, але сказалі, што ліст дасланы з Палтаўшчыны. Напісаў ліст ветэран І-й сусветнай Фядос Бабенка, якому давялося пабываць на Браслаўшчыне. Да ліста дакладаліся два фотаздымкі выдатнай якасці – Ф.Бабенка ў Браславе і ён жа перад маёнткам у Опсе. На опсаўскім здымку на рукаве Бабенкі – павязка з чырвоным крыжам. Відаць ён быў салдатам медыцынскай часці. Згадаем што ў Опсе, у палацы, размяшчаўся шпіталь. Ф.Бабенка разумеў каштоўнасць здымкаў. На вялікі жаль, з прычыны адсутнасці адраса не ўдалося звязацца з ветэранам, падзякаваць за фотаздымкі, папрасіць напісаць падрбязныя ўспаміны, падзяліцца іншымі памяткамі І-й сусветнай. Але і за гэтыя два каштоўныя здымкі гісторыкі Браслаўшчыны вельмі яму ўдзячны. Ніжэй прыводзім тэкст ліста Ф.Бабенка, напісанага на ўкраінскай мове.*




*Шановній секретар !*

*Це Вас тривожить і відрывае від прамої Вашої работи із Україні один громадянін. Во врем'я першої світової войны я побував в Ваших містах та селах. В деякіх частково, а в деякіх і довгенько приходилось бути. Двінск, Смоленськ, Вітебск, Полоцк, ст.Бальбіново, Друя, а також села Баровка, Опса, Браслав і дер.Кумелі.*

*В дер. Кумелі я зустрів февральську революцію і усунення Ніколая II от царувания, а в Баровці зустрів Бретський мир, у Бресті теж побував, і декрет Леніна про роспуск армії по домівках, бо Троцький на Бреському мирі не те виконав що Ленин і партія ожидали.*

*Висилаю Вам два фото, одне фото Опсовський будинок фольварку 1915 года, друге фото частина м.Браслава теж 1915 года. Коли у Вас існує історічний гурток в районі, то це і будуть спогади про першу світову війну.*

*Прошу пробачення що відорвав Вас від прамої роботи.*

*З шаною до Вас Бабенко.*

# ЗНАХОДКІ МІКОЛЫ ПАЎЛОВІЧА

Гісторык, калекцыянер з Даўгаўпілса Мікола Паўловіч, актыўны сябра Браслаўскага краязнаўчага таварыства шмат робіць для выяўлення браслаўскіх слядоў у горадзе, дзе ён жыве з сям'ёй. Даўгаўпілс размешчаны ўсяго толькі 40 кіламетраў ад Браслава мае значную праслойку жыхароў, карані якіх звязаны з Браслаўшчынай і суседнімі рэгіёнамі Беларусі. Аднаго разу М.Паўловіч натыкнуўся на фотаздымкі першай сусветнай вайны, звязаныя з Відзамі і наваколлем. У Даўгаўпілс іх прывёз з сабой Іван Адамавіч Гайлеўскі. На адным здымку група сялян в.Тракішкі, якіх немцы прыцягнулі да земляных прац. Пераважаюць жанчыны з рыдлёўкамі, на заднім плане ў цэнтры – І.Гайлеўскі. сярод сялянак – сёстры Пахолкі, Шакcніс. Вылучаецца постаць мужчыны ў мундзіры. Гэта немец, кіраўнік прац. Датуецца здымак восенню 1915 г., калі з дапамогай мясцовага насельніцтва немцы падрыхтавалі ў наваколлі Відзаў цэлую сістэму ўмацаваных пазіцый. На другім здымку – вуліца Відзаў сілуэтам касцёла на заднім плане. На адвароце подпіс: "Відзы. Зіма 1915/16". І вось зусім свежая знаходка – друкаваная паштоўка з відам Відзаў. Сюжэт паштоўкі амаль супадае з сюжэтам фотаздымка – тая ж вуліца, гмах храма на заднім плане. Друкаваны нямецкі тэкст у верхняй частцы перакладаецца наступным чынам: "Горад Відзы, Расія, разбураны артылерыйскім абстрэламі расіян". У ніжняй частцы ад рукі подпіс Andenken! 1916-1917" ("Памятка. 1916-1917"). Паштоўка на адвароце мае тэкст, які з прычыны невыразнага почырку вельмі дрэнна чытаецца. Паштоўка была адпраўлена з Відзаў у Берлін 10 снежня 1916 г.

Мікола Паўловіч піша пра абставіны выяўлення [illegible] *"Увосень гэтага года давялося пэўны час працаваць у Рызе. Выходным днём наведаў сход калекцыянераў, які два разы на месяц адбываецца ў будынку 6-й школы. Даўно там не быў і адразу заўважыў, што цікавасць да даўніны ўзрасла – сход гудзеў як вулей. Узраслі і кошты, у сярэднім у 2-3 разы ад часу майго апошняга візіту. Падаражэлі да 1 лата і ўваходныя білеты. Напрыканцы свайго наведвання я заўважыў калекцыянераў, якія разглядалі альбом з паштоўкамі. Яны былі на беларускую тэму і надрукаваны ў Германіі ў часы І-й сусветнай вайны. Там былі віды Наваградка, Наваельні, Паставаў, Камаяў, Гародні, іншых мясцін. Раптам бачу – Відзы. Адпраўлена з Браслаўшчыны ў Берлін. Уладар паштовак – Чэслаў з літоўскага горада Шаўляя. Ён збірае паштоўкі з відамі гэтага горада, а астатнія абменьвае, за грошы паштоўкі не прадае. З арыгіналам гаспадар не [illegible] Заледзьве ўпрасіў яго даслаць ксеракс відзскай [illegible] За гэта яму выслаў шаўляйскія матэрыялы. Альбом з паштоўкамі Чэслаў прывёз з Германіі. Там сярод калекцыянераў трапляецца шмат матэрыялаў беларускай тэматыкі, толькі просяць за іх ад 5 еўра і вышэй. Чэслаў меў у руках яшчэ адну паштоўку з Відзаў, аднак раней яе абмяняў. Побач з Чэславам займаў месца калекцыянер з Мінска. Ён пахваліўся, што мае дарэвалюцыйную паштоўку Браслава, але паводзіў сябе не вельмі ветліва і большага ад яго дабіцца не ўдалося."*



**Сяляне в.Тракішкі, удзельнікі прац па ўзвядзенню земляных умацаванняў**



**Відзы. Зіма 1915-16 гг. Фотаздымак**




**Відзы. 1916 г. Паштоўка**

Мікола Паўловіч перадаў ксеракопію паштоўку ў Браслаўскі музей. Канешне шкада, што тут не знайшоў прытулак арыгінал, але важна, што дзякуючы Міколе паштоўка ўведзена ў зварот як каштоўны гістарычны дакумент.

---

У музеі зберагаецца дакумент, які адносіцца да першых месяцаў вайны на Браслаўшчыне. Гэта абвестка да грамадзянскага насельніцтва ад імя вайсковых уладаў аб забеспячэнні фуражом часцей расійскай арміі. У першыя месяцы вайны ў рэгіёне баявыя дзеянні вяло шмат кавалерыйскіх часцей. Пакуль не наладзіўся падвоз фуражу для коней, асноўнай крыніцай яго папаўнення былі запасы сялянскіх гаспадарак. Дакумент знойдзены ў в.Пуздвічы, што паміж Браславам і Опсай.

Объявление

Сим довожу до сведения, что у каждого жителя имеющаго на лицо скот должно быть оставлено в обеспечение его продовольствия до мая месяца, сено или кормовая солома по одному пуду на лошадь или корову и по 15 фунтов на голову мелкаго скота, все же остальное количество фуража владелец в случае требования войсковыми частями обязан продавать по ценам не выше справочной.

Для определения количества фуража в каждом спорном случае, должны быть привлекаемы местныя сельския и полицейские власти.

Начальник конной Группы
Генерал-От-Кавалерии Орановский
Вр.И.д Коменданта Ротмистр Кротков

Пячатка Опсаўскага валаснога праўлення

# КУПЧЭЛЬСКАЯ РЭЛІКВІЯ

Адной з цікавейшых і каштоўнейшых памятак першай сусветнай вайны, якая зберагаецца ў Браслаўскім музейным аб'яднанні, з'яўляецца афіцэрскі фотаальбом. Знойдзены ён быў вучнямі Купчэльскай школы і некаторы час знаходзіўся там. Потым альбом перадалі ў Браслаў, дзе рэліквіі забяспечана больш кваліфікаванае захаванне і выкарыстанне. З таго часу альбом некалькі разоў экспанаваўся на выставах, асобныя фотаздымкі ілюстравалі гістарычны зборнік "Браслаўскія сшыткі" (т.3), прысвечаны Друсвятам (у раздзеле "Першая сусветная вайна").



**На рыбалцы. Фальварак Даўблі. Май 1917 г.**

Альбом мае адносна невялікі фармат 18х25 см і складаецца з 16 аркушаў і вокладкі з цісненнем фабрычнай вытворчасці, замацаваных шнурком. Верагодней за ўсё, альбом не аднойчы разшнуроўваўся і парадак фотаздымкаў у ім парушаны. На некаторых старонках фотаздымкі не захаваліся. Зберaглося 44 здымкі. Іх можна падзяліць на некалькі груп. Ёсць фотаздымкі сямейныя, на якіх сваякі, магчыма, і сябры ўладальніка (яго прозвішча наўрад ці будзе ўстаноўлена). Найбольшая колькасць здымкаў зроблена на рэзервовых пазіцыях, у абозе. Некаторыя маюць подпісы, друкаваныя на машынцы і напісаныя ад рукі. Згадваюцца розныя мясцовасці ў наваколлі Опсы: Юцішкі, Рудзі, Даўблі, Пяткунішкі, Лакоткі. Героі здымкаў – каля дрэў, на беразе возера, у палатцы, за сталом, пад час гульні ў карты. На некаторых здымках можна ўбачыць мясцовых жыхароў, дарослых і дзяцей. Сустракаюцца жартаўлівыя подпісы: "Гранд Оттель в соснинке", "В саду. Фрукты поспели." Некалькі фотаздымкаў зроблена ў Анісімавічах. Вылучаюцца групавыя партрэты афіцэраў у маёнтку. Пад адным з іх подпіс: "Академия Ф.Анисимовичи". Магчыма, там праходзілі нейкія курсы.



**Вольны час у рэзерве. в.Пяткунішкі. Май 1917 г.**

Адна з самых каштоўных груп фота-здымкаў зроблена каля перадавой і тычыцца баявых эпізодаў. Налічваецца 11 такіх здымкаў, аднак яны самай дрэннай якасці, некаторыя амаль немагчыма рэпрадуцыраваць (магчыма, на дапамогу прыйдзе кампутар). Сярод баявых здымкаў можна назваць такія сюжэты: салдаты каля падбітых нямецкіх самалётаў (3 здымкі), салдаты ў атацы, салдат у процівагазавай масцы, група воінаў каля загарадкі з калючага дроту, разлік кулямёта "Максім". Верагодней за ўсё, баявыя здымкі зроблены дзесьці ў наваколлі мястэчка Друсвяты. Мяркуючы па подпісах і ўскосных дадзеных, ваенныя фотаздымкі зроблены ў 1916-17 гадах.

Такім чынам, матэрыял альбома з'яўляецца вельмі каштоўным гістарычным сведчаннем, які істотна ўзбагачае нашы ўяўленні аб падзеях першай сусветнай вайны на Браслаўшчыне.



**Акадэмія. Фальварак Анісімавічы**




**Паходнае жыццё. в.Пяткунішкі**

# Пахаванні першай сусветнай

Падчас працы над кнігай "Памяць" было ўстаноўлена, што на Браслаўшчыне знаходзіцца каля 90 вайсковых пахаванняў. Толькі тры з іх – нямецкія (97 загінуўшых). Асноўная частка пахаванняў нямецкіх воінаў аказалася на прылягаючай тэрыторыі Літвы. Падлічана, што на Браслаўшчыне пахавана не менш за 2829 расійскіх воінаў (дакладныя звесткі па некаторых магілах адсутнічаюць). Устаноўлены прозвішчы 797 з іх. З часу выхаду кнігі адшукана яшчэ некалькі пахаванняў. Буйнейшае нямецкае пахаванне знаходзіцца ў вёсцы Гірэйшы. На каталіцкіх могілках гэтай вёскі захаваўся помнік з каменя. На пліце – крыж, а таксама надпіс, які дрэнна чытаецца. Адзін з магчымых варыянтаў перакладу: "Незломным героям ". Верагодней за ўсё, лічба «347» значыць колькасць пахаваных тут воінаў. У кнізе "Памяць" адзначалася, што большасць вайсковых пахаванняў першай сусветнай вайны страчана ці знаходзіцца ў занядбаным стане. Некаторыя магілы становяцца ахвярамі "чорных археолагаў" – ахвотнікаў пакорпацца ў зямлі дзеля нажывы. Сітуацыя пакуль што не мяняецца да лепшага. Уладныя органы праблемай не зацікавіліся. Значна большую чалавечнасць праяўляе мясцовы люд. Вядома шэраг прыкладаў, калі вяскоўцы ўстанаўлівалі на магілах крыжы, помнікі, даглядалі іх. Напрыканцы 90-х гадоў XX ст. вайсковае пахаванне ў Браславе было добраўпарадкавана сіламі сяброў мясцовай арганізацыі БНФ. Спіс 116 воінаў Браслаўскага пахавання апублікаваны ў першым томе зборніка "Браслаўскія сшыткі". На жаль, частка вайсковага некропалю была знішчана ў 60-х гадах XX ст. пры пашырэнні вуліцы Юрэнкі. Матэрыялы пра нямецкія пахаванні Браслаўшчыны музей перадаў у амбасаду Германіі. Яны зацікавілі грамадскую арганізацыю Народны Саюз Германіі па дагляду за вайсковымі пахаваннямі. Аднак добраўпарадкаваць могілкі немцы змогуць толькі пасля таго, як будуць ратыфікаваны адпаведныя пагадненні паміж Беларуссю і Германіяй. Што да расійскіх пахаванняў, то невядома, калі яны і каго зацікавяць. Аналіз спісаў палеглых паказвае, што апошні прытулак на Браслаўшчыне знайшлі жыхары розных куточкаў імперыі. Напрыклад, у Браславе пахаваны ўраджэнцы сучасных Беларусі, Украіны, Расіі, Літвы, Латвіі, Польшчы, Малдовы. Трэба тэрмінова абвясціць пахаванні першай сусветнай вайны гістарычнымі помнікамі, лакалізаваць іх знаходжанне, зрабіць іх апісанне, устанавіць памятныя знакі. Пакуль жывуць старыя вясковыя жыхары, частку пахаванняў можна вярнуць з нябыту. Намаганняў музея, школьных краязнаўцаў для гэтага недастаткова...

**Помнік на магіле нямецкіх воінаў у в.Гірэйшы**

**Брацкія магілы расійскіх салдат каля фальварка Латанішкі. Фота з РДВГА г.Масква**

**Прыклады эпітафій, складзеных у памяць загінуўшых салдат, пахаваных на тэрыторыі Браслаўшчыны**

**в.Латанішкі. Магіла А.Цімашэўскага**
Метко пуля разрывная
Его сразила молодца.
Погибла сила молодая
С свинцом в груди
Навеки без конца.

**в.Паўлаўка. Брацкая магіла**
Спите, орлы боевые,
Спите спокойным вы сном.
Вы заслужили, родные,
Счастье и вечный покой.

**в.Паўлаўка. Брацкая магіла**
Под этой общей могилой
Герои русские лежат.
И нежный прах земля сокрыла
От всяких бурь
Они сражались...
И не щадили жизнь свою.
Теперь лежат в земле покойно.
Да славься тот, кто пал в бою.

*Па матэрыялах Расійскага дзяржаўнага ваенна-гістарычнага архіва.*

---

Для кнігі "Памяць" былі складзены спісы расійскіх салдат, якія пахаваны на Браслаўшчыне. Гэтыя спісы не былі ўключаны ў кнігу, бо гэтага не дазваляў аб'ём выдання. Спісы зберагаюцца ў музеі. Да прыкладу друкуем спіс аднаго з вайсковых пахаванняў.

в.Баравыя.
Воіны 94 пяхотнага Енісейскага палка, якія загінулі ў верасні 1915 г.
Зуеў Максім, Віцебская губ., Невельскі пав., яфрэйтар, загінуў 22.09.
Ігнацьеў Фёдар, Пскоўская губ., Тарапецкі пав., радавы, загінуў 22.09.
Карабкоў Мікалай, Маскоўская губ., Серпухоўскі пав., радавы, загінуў 22.09.
Кожын Мікалай, Разанская губ., Пашкоўскі пав., радавы, загінуў 22.09.
Мануілаў Сідар, Пскоўская губ., Велікалуцкі пав., радавы, загінуў 23.09.
Масейкін Піліп, Пензенская губ., Пензенскі пав., в.Курылаўка, радавы, загінуў 20.09.
Сцянякін Рыгор, Самарская губ., Мікалаеўскі пав., Хварсцянская вол., радавы, забіты 20.09.
Чарнышоў Іван, Тамбоўская губ., Усольскі пав., радавы, забіты 20.09.
Шылаў Яфім, Пермская губ., яфрэйтар, забіты 20.09.
Шчаглоў Аляксей, яфрэйтар, забіты 23.09.

# Пошукі і знаходкі школьных краязнаўцаў

Найбольш актыўна краязнаўчай працай па тэме першай сусветнай вайны займаюцца ў Дрысвяцкай, Карасінскай і Грытунскай школах. Усе тры школы размешчаны на тэрыторыях, дзе праходзіла лінія фронту і дзе сляды вайны да гэтай пары яшчэ даволі выразныя. Шкада, што ў баку ад гэтай працы застаюцца краязнаўцы Відзаўскай, Казянскай, Відзы-Лаўчынскай і Богінскай школ. Краязнаўцы Дрысвяцкай, Карасінскай і Грытунскай школ выявілі шмат памятных месцаў, звязаных з першай сусветнай вайной, запісалі цікавыя сведчанні старажылаў.

Асабліва плённай з'яўляецца дзейнасць вучняў з Дрысвят, якімі кіруе Эма Лявонаўна Шавэла, вядомы арганізатар краязнаўчай працы. Дрысвяцкія краязнаўцы склалі грунтоўны "Летапіс вёскі Дрысвяты", у якім ёсць асобны раздзел: "Першая сусветная вайна". Падрыхтавана некалькі прац, прысвечаных першай сусветнай вайне, адзначаных на розных злётах і конкурсах. Вучань 9-га класа Юрый Мартынкін з працай "Нямыя сведкі першай сусветнай вайны" стаў пераможцам конкурсаў у Браславе, Глыбокім, Мінску. Вучні 5-8 класаў у 2003 г. даследавалі абарончыя ўмацаванні германскіх войск каля вв.Баркоўшчына і Нурвяны. Апісаны рэшткі 7 жалезабетонных аб'ектаў (бліндажы і інш.), выяўлены калодзеж, вырыты для патрэб салдат. Зафіксавана пахаванне расійскіх салдат. Яно абазначана крыжом і добраўпарадкавана. Даглядае за магілай мясцовы жыхар Лявон Гібоўскі, які сцвярджае, што ў гэтай мясцовасці загінуў і яго бацька.



**Рэшткі нямецкіх умацаванняў непадалёку ад в.Марцінкавічы**

Дрысвяцкія краязнаўцы выявілі яшчэ шэраг памятных мясцін. Адна з апошніх прац – пошукі ўвосень бягучага года магіл расійскіх салдат у ваколіцах Дрысвяцкай ГЭС. Месца лакалізавана ва ўрочышчы Валожын хутар. У 50 – 60-я гады XX ст. мясцовы жыхар-стараверАбалевіч паставіў на пахаванні помнік. Гэтым ён выратаваў пахаванне ад знішчэння падчас меліярацыі. Надмагільная пліта цяпер разбіта. Удалося прачытаць фрагмент надпісу: "Спаси Господи..." Каля 5-6 магіл разрыты – нехта з мясцовых ці прышлых «чорных археолагаў»шукаў памяткі.

Найбольш актыўна ў пошукавай працы ўдзельнічаюць вучні: Бяляўскі Аляксандр, Кандрацьеў Сяргей, Аўгуціс Уладзімір, Жэлнін Мікалай, Лявікіна Ірына, Місюн Таццяна, Капуста Алеся, Кузняцоў Аляксей (вучні 9-га класа), Падоба Віктар (10 клас), Піваровіч Аляксандр, Чайкоўскі Сяргей, Любінскі Віталь (вучні 8-га класа).

Вучні Карасінскай школы пад кіраўніцтвам Алы Тадэвушаўны Прахарэнка адшукалі памятны камень на месцы пахавання салдат 277-га Пераяслаўскага пяхотнага палка каля в.Марцінкавічы. Паводле архіўных звестак тут было пахавана 137 воінаў. Пахаванні былі індывідуальныя, размяшчаліся на трох участках. Краязнаўцы запісалі шмат успамінаў старажылаў аб падзеях першай сусветнай вайны.




**Памятны камень на месцы пахавання салдат 277 Пераяслаўскага палка ля в.Марцінкавічы**

Даследаванні ўмацаванняў на нямецкіх пазіцыях у сваім рэгіёне правялі вучні Грытунскай школы. На раённым краязнаўчым злёце ў 2005 г. была высока ацэнена праца Эдуарда Шыкшняна (8 клас) і Яўгена Мацкевіча (9 клас) "Абарончыя ўмацаванні часоў першай сусветнай вайны ў ваколіцы вёскі Латочкі" (кіраўнік – Ала Браніслаўна Кажанеўская). Вучні ўстанавілі, што на невялікай плошчы ад вёскі Латочкі да вёскі Груштэлішкі налічваецца каля 40 умацаванняў германскай лініі абароны. Жалезабетонныя збудаванні злучалі складаныя сістэмы акопаў, хадоў. Іх рэшткі таксама можна ўбачыць. Захаваліся расказы старых людзей пра падземныя хады і тунэлі. Жалезабетонных умацаванняў існавала значна болей. Частку іх разабралі ў пасляваенны час, калі быў патрэбны будаўнічы матэрыял, частку знішчылі пры правядзенні меліярацыі. Тыя, што захаваліся, вылучаюцца разнастайнасцю форм і памераў. Вучні вылучылі шэсць асноўных тыпаў: вялікія (6-10 метраў даўжынёй), "Г" падобнай формы, невялікія (2 х 3, 3 х 4 метры), круглыя (дыяметр 3-3,5 метраў) двух варыянтаў, маленькія (1 х 2 метра), прамавугольныя (4 х 5 метраў). Аб прызначэнні кожнага збудавання, якія мясцовыя жыхары звычайна называюць "бліндаж" ці "дот", можна толькі здагадвацца.

Прыйдзе час і іх агледзяць спецыялісты па фартыфікацыйных збудаваннях. Цяпер жа важна ўсвядоміць, што ўмацаванні першай сусветнай вайны з'яўляюцца гістарычнымі помнікамі, і пастарацца зберагчы іх.

Школьныя краязнаўцы робяць надзвычай важную справу.

« ПАВЕТ » DISTRICTUS
ВЫДАННЕ КРАЯЗНАЎЦАЎ БРАСЛАЎШЧЫНЫ



Наклад 299 асобнікаў. Распаўсюджваецца бясплатна.
Выдаецца з ліпеня 2001 г.

Адказны за выпуск: Кастусь Шыдлоўскі
г.Браслаў, вул.Кастрычніка 11-10, тэл. 21-4-28
E-mail: brasmc@vitebsk.by

Над нумарам працавалі: Кастусь Шыдлоўскі, Аляксандр Панцялейка, Валеры Буко

Выдадзена пры дапамозе цэнтра выдавецкіх ініцыятыў «Сумежжа» (Паставы)